ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАЁЎ ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ДЭКАДНІК

СЭКТАРУ КНІГАГАНДЛЮ ДзВБ

№ 3 (9) | РАССЫЛАЕЦЦА ПА ЎСЁЙ СЕЦІ КНІГАГАНДЛЮ ПА РАЗЬВЁРСТЦЫ | АДРАС РЭДАКЦЫІ Менск, Пляц Волі 5, тэл. № 7—41 | 30 студзеня 1932 г.



## АЖЫЦЬЦЯВІМ ВЫКАНАНЬНЕ ДЫРЭКТЫЎ ПАРТЫІ, ЗАБЯСЬПЕЧЫЎШЫ СВАЯЧАСОВАЕ РАСПАЎСЮДЖВАНЬНЕ СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧАЙ ЛІТАРАТУРЫ ДА ТРЭЦЯЙ БАЛЬШАВІЦКАЙ ВЯСНЫ

### Сельска-гаспадарчую кнігу—у колгасы і саўгасы.

Веснавая сельска-гаспадарчая кампанія 1932 году на бывае вялізарнае гаспадарча-палітычнае значэньне ў выкананьні програмы 4-га заключнага году пяцігодкі.

Цэнтральнымі задачамі гэтай кампаніі зьяўляюцца: **арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў, укараненьне агротэхнікі, ажыцьцяўленьне 6 умоў т. Сталіна, поўнае выкананьне пасяўных плянаў і падвышэньне ўраджайнасьці.**

У вырашэньні гэтых задач распаўсюджваньне масава-палітычнай і сельска-гаспадарчай літаратуры адыгрывае вялізарную ролю. Кніга павінна ператварыцца ў штодзённы дапаможнік у правядзеньні гэтых задач. Праца па распаўсюджваньні кнігі, па забясьпечаньню ёю колгасаў, саўгасаў і МТС павінна быць пастаўлена на належную вышыню.

Люты-красавік месяц для кожнай кнігарні, для кожнага кніжнага працаўніка павінна стаць штурмавым.

**2.000.000 экз. кніжок масава-арганізацыйна-палітычнай і с-гаспадарчага характару, разьлічаныя на шырокія саўгасныя і колгасныя масы павінны быць сваячасова даведзены да кожнага колгасьніка, рабочага саўгаса, МТС і аднаасобніка-бедняка і серадняка.**

Кнігарням патрэбна перабудаваць сваю працу на аснове жывой сувязі з асноўнымі групамі спажыўцоў кнігі, дакладна вывучаючы культурны і гаспадарчы профіль абслугоўваемых раёнаў, а таксама запросы розных груп спажыўцоў кнігі.

Кнігарні павінны быць застрэльшчыкамі арганізацыі новых бібліотэк і папаўненьня старых у саўгасах, колгасах і МТС, з такім разьлікам, каб бібліотэкамі былі ахоплены ня менш 15.000 саўгасаў і колгасаў.

Праз шэфтаварыства, фабкомы і мясцкомы кнігарні павінны камплектаваць с-г бібліотэчкі ня менш 10.000 для падшэфных саўгасаў, колгасаў і МТС.

**Неабходна трымаць сувязь з культурнымі сіламі вёскі:** хатнікамі, вучастковымі аграномамі, дактарамі, настаўнікамі, вучнёўскімі арганізацыямі. Яны павінны стаць асноўнымі **арганізатарамі масавага распаўсюджваньня с.-г. кнігі.**

Трэба стварыць сетку выставак палітмасавай, сельска-гаспадарчай і тэхнічнай кнігі ў залежнасьці ад спэцыялізацыі і характару раёну.

**Шырока выкарыстаць друк і радыё. Ў насьценгазэтах саўгасаў, колгасаў, МТС** і ў раённых газэтах узьняць пытаньні пра задачы, якія стаяць перад усімі арганізацыямі ў час веснавое сельска-гаспадарчае кампаніі ў справе распаўсюджваньня кніг, прыстасаваўшы гэтыя артыкулы да мясцовых ўмоў і спэцыялізацыі характару раёну.

**На аснове соцыялістычных мэтадаў працы:** ударніцтва і соцспаборніцтва паміж кнігарнямі і паасобнымі работнікамі кнігараспаўсюджваньня, **пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый і пры дапамозе профэсыйных і грамадзкіх арганізацый, ударна выканаем заданьні па распаўсюджваньню кнігі, чым дапаможам у выкананьні задач пастаўленых партыяй перад с.-г. кампаніяй 3-е бальшавіцкае вясны**

### ЗАГАД № 8

**Па сэктары кнігагандлю ДВБ ад 23-га студзеня 1932 г.**

**АБ РАСПАЎСЮДЖВАНЬНІ І ЗАБЯСЬПЯЧЭНЬНІ ЛІТАРАТУРЫ ДА 3-яе БАЛЬШАВІЦКАЕ ВЯСНЫ.**

Для ажыцьцяўленьня задач, якія выплываюць з пастановы ЦК КП(б)Б і СНК БССР „Аб правядзеньні веснавой сельска-гаспадарчай кампаніі 1932 году", кніга павінна адыграць надзвычайна адказную ролю.

**На Сэктар Кнігагандлю ўскладаецца адказная задача—сваячасовае распаўсюджваньне і забесьпячэньне належным асортымэнтам сельска-гаспадарчай літаратуры.**

Каб гэта выканаць загадваю:

§ 1.

Тав. **Гельфанду** (нам. заг. Сэктару) скласьці каталёг с-г літаратуры да веснавое сельска-гаспадарчае кампаніі 1932 году, зьмясьціўшы ў ім пастанову ЦК КП(б)Б і СНК БССР „Аб правядзеньні веснавое с-г кампаніі 1932 г." і надрукаваць яго ў колькасьці 10.000 экз.; тэрмін выхаду з друку—3-га лютага 1932 году. Каталёг разаслаць з такім разьлікам, каб забясьпечыць ім кожны саўгас, колгас, МТС, кнігарні ДВБ, райспажыўсаюзу і Саюздруку.

§ 2.

Тав. **Няміро** (літфункцыянал с-г літаратуры) скласьці плян масавае працы па рэалізацыі с-г літаратуры ў час веснавое с-г кампаніі. Плян павінен быць разасланы па філіялам ДВБ і БАКТ'у 31/1-32 г. Разам са сьпісам рэштак с-г літаратуры з мэтаю атрыманьня заказаў і папаўненьня кнігарань літаратураю. Сачыць. каб у час адсылалася літаратура і ўлічваць гаспадарчы профіль тых раёнаў, куды кніжка накіроўваецца. Трымаць сувязь з выдавецкім сэктарам с.-г. літаратуры і друкарнямі, каб мець магчымасьць сваячасова рабіць разьвёрстку і даваць весткі загадчыку апэрацыйнае часткі т. Пяткевічу за 3 дні да атрыманьня кніжкі базаю.

§ 3.

Тав. **Пяткевічу** (загадчык апэрацыйнае часткі) пры атрыманьні вестак пра выхад кніжак, тэлефанаграмай запрашваць разьвёрстку БАКТ'у і рабіць выпіску рахункаў па нашых кнігарнях і БАКТ'у на ўсе кнігі с-г сэктару да таго часу, калі кніжка паступіць на базу.

§ 4.

Тав. **Бяркоўскаму** (кладаўшчык базы № 1) забясьпечыць адбіраньне, упакаваньне і адсыланьне с-г літаратуры, таго самага дня, калі яна атрымана. Кожная пасылка павінна мець наклейку „Пасеўная".

§ 5.

Загадчыкам філіялаў і раённых кнігарняў зараз-жа распачаць і шырока правесьці апэрацыйна-масавую працу па рэалізацыі с.-г. літаратуры.

§ 6.

Т. т. **Гельфанд** (нам. Заг. сэктару), НЯМІРА (літфункцыянал с.-г. кнігі), ГУРВІЧУ (заг. „Кніга-Поштай") выехаць у філіялы для інструктаваньня і практычнае дапамогі ў правядзеньні гэтае кампаніі.

Выехаць на месцы не пазьней 3/II—32 году.

**Гельфанду**—Бабруйскі і Мазырскі філіялы, **Няміра**—Аршанскі і Магілёўскі філіялы **Гурвічу**—Віцебскі і Полацкі філіялы.

§ 7.

Тав. **Гурвіч** (літфункцыянал юндзет сэктару) прымацоўваецца да Менскага філіялу па правядзеньню гэтай кампаніі.

§ 8.

Таварышы, якія выяжджаюць разам з загадчыкамі філіялаў нясуць пэрсональную адказнасьць па рэалізацыі с-г. літаратуры да веснавое кампаніі.

§ 9.

Загадчыкам філіялам вызначыць фонды для прэміраваньня лепшых ударнікаў—энтузіястых, барацьбітоў за соцыялістычныя формы кнігагандлю ў правядзеньні гэтае кампаніі.

§ 10.

Сэктар Кнігагандлю вызначае фонд для прэміраваньня лепшых філіялаў і лепшых ударнікаў баз і сэктару, што праявілі сябе праводзячы гэту кампанію і выканалі ўскладзеньня на іх абавязкі.

§ 11.

По рабоце над с-г. літаратураю ў час кампаніі будзе ацэньвацца ўся наша праца і здольнасьць выканаць задачы партыі і ўраду.

Дэрэктар кнігагандлю ДВБ КЛЕЙНЕР

# ДРУКУЮЦЦА І ХУТКА ВЫЙДУЦЬ.

## Партмаспалітсэктар.

**Ральфофыкс.** — Каленіяльная політыка Англії. (Пераклад з расійскае мовы) 2 арк.
**Гуткін.**—Натуральныя багацьці СССР і іх выкарыстаньне. 3,5 арк.
**Пік Вільгельм.**—У баёх за Савецкую Нямеччыну. (Пераклад з расійскае мовы) 1 арк.
**Бухарын.**—Барацьба двух мiроў і задачы навучаньня (Пераклад з расійскае мовы) 1,5 арк.
**Бачароў.**—Падручнік гісторыі клясавае барацьбы XVIII—XX стаг. (Пераклад з расійскае мовы) 11 арк.
**Салдаценка.** — Рабселькораўскі рух на ўздыме. 3,5 арк.
**Адарацкі.**—Аб вывучэньні твораў Леніна (Пераклад з расійскае мовы) 1,5 арк.
**Максім Горкі**—У. І. Ленін. 1,5 арк.
**Плеханаў.**—Асноўныя пытаньні марксызму. 10 арк.
**Адарацкі.**—Пра значэньне марксыцка-ленінскае тэорыі. 1 арк.
**Шэйнман М.**—Сучасная соцыял-дэмократычная рэлігія і соцыялізм. 3 арк.
**Эльвін І.**—Гішпанская рэволюцыя і партыя. 2,5 арк.
**Кагановіч Л.**—За бальшавіцкае вывучэньне партыі. 1,5 арк.
**ЦК КП(б)Б.**—ЦК КП(б)Б у змаганьні за адзінства радоў КП(б Б і генеральную лінію партыі 2,5 арк.
**Ціхон.** —Па новаму арганізаваць працу. 2 арк.

## Сельгассэктар.

**Александраў В.**—Сап у хатняе жывёлы і чалавека і спосабы змаганьня з ім.
**Пратасеня Г.**—Кіслотнасьць глеб Меншчыны. 7 арк.
**Тарасаў М.**—Лён 3 арк.
**Бездзенка Т.**—Гародныя шкоднікі і спосабы змаганьня з імі.
**Міхасенка.**—Жыцьцё лесу і апісаньне лясных дрэў. 3 арк.
**Панадзіадзі.**—Як асушыць балота без дапамогі тэхніка.
**Кайгарадаў.**—Кароткі нарыс сельска-гаспадарчых кліматычных умоў БССР.
**Навіцкая М. К.**—Карысныя і шкодныя жывёлы ў с. г. БССР.
**Ройтэнштэйн.**—Палявы рамонт трактароў і с. г. машын. 7 арк. (Зборнік). Рабочая програма організацыі працы.
**Цьвяткоў.**—Рамонт с. г. інвэнтару.
**Драздоў.**—Культура для сілосу.
**Кляменчыц.** — Організацыя харчаваньня малочнай каровы ў буйнай соцыялістычнай гаспадарцы. 6 арк.
**Кудзінаў.** — Папярэдняе разьмеркаваньне прыбыткаў у колгасе „Новы Шлях“
**Журык С.**—Як сіласаваць кармы.
**Кожанаў К.**—Рэжым грунтавых вод на Мар'інскіх балотах.
**Тупяневіч і Роўда.**—Вясновыя работы ў садзе і агародзе.
**Басарскі.**—Памятка культармейцу. 1 арк.
**Корой.**—Як організаваць работу МТС.
**Воўкаў М.** — Саўгасы — школы колгасаў. 2 арк.
**Феофанаў.**—Пераробка аднакорпусных плугоў у двухкорпусныя.
**Гусев.**—Камбайн „Комунар“ 4 арк.
**Мічэрліх Е.**—Вызначэньне патрэбы ў угнаеньні глебаў. Трактарныя 24-х дзіскавыя сявалкі. 1 арк.
**Лемеш.**—Кармленьне завадзкіх сьвіней. 3 арк. II выданьне
**Антонаў.**—Збожжавая радковая сявалка. 1 арк.

**Салаўеў Проф.**—Пералік паразітаў с-г жывёлы.
**Сяргееў А**—Сурагаты харчоў і карыстаньне імі. 2 арк. Карысная актыву—колгасаў і саўгасаў і аграномаў.
**Страж.** -Соя ў БССР. 1,5 арк. Брошура назвычай сваячасовая. культуру соі канечне трэба популярызаваць. Разьлічана на кіраўнічы склад с-г. аграномаў і вясковы актыў.

## Вайсковы сэктар.

**Кісяляў.**—Галоўныя баявыя атрутныя матэрыі. 7 арк.
**Палякоў.**—Памятка наводчыку па даглядзе і захаваньню ручнога кулямету Дзехцярова. 0,5 арк.
**Львоў і Макараў.**—Памятка стралку наглядальніку ў баі. 0,5 арк.
**Пігін.**—Служба палявое варты. 1 арк.
**Кананскі А. І.**—Абарона жывёлы ад атрутных матэрый (Пераклад з расійскае мовы) 2 арк.
**Арузо.**—Тэхніка пяхотнай разьведкі аддзяленьнем, узводам і ротаю. (Пераклад з расійскае мовы) 4 акр.
**Палякоў А.**—Памятка кулямётчыку, як даглядаць і захоўваць кулямёт „Максім“ 1 акр.
**Стрыеўскі А. К.**—Памятка чырвонаармейцу пра авіа ыю. 0,5 арк.
**Барэйша М**—Памятка чырвонаармейцу пра з хаваньне прылад для страляньня і назіраньня. 0,5 арк.
**Пунцаў В.**—Памятка ручному гранатамётчыку. 0,5 арк.
**Харыкаў і Аляксееў.**—Кулямёт—машына. (Пераклад з расійскае мовы) 2 арк.
**Чорны І.**—Палявы тэлефон (Пераклад з расійскае мовы) 1,5 арк.
**Бурчэ Е. Ф.**—Паветраны флёт і вайсковая маскіроўка. 1,5 арк.
**Багданаў М.**—Памятка чырвонаармейцу па сапёрна-маскіровачнай справе. (Пераклад з расійскае мовы) 3,5 арк.
**Дончанка Д.**—Падрыхтоўка кулямётчыка. (Пераклад з расійскае мовы) 4 арк.
**Амосаў.**—Танкі ў баі. 2 арк.
**Садовы.**—Служба баявой аўта-машыны ў паходзе. 1,5 арк.
**Розынка.**—Памятка выведчыку артылерысту. 1 арк.
**Багданаў М.**—Памятка стралку па перапрацовачнай справе 1 арк.
**Сізы Е. Я.**—Спартыўныя гульні 2 арк.
**Сізы** —Гімнастыка. 2,5 арк.
**Програмы для кулямётных гуртоў вайсковых ведаў I і II ступені.** 2 арк.
**Энгельс.**—Армія. 4,5 арк.

## Экпраўсэктар.

**Кацанельсон.**—Як ўсьцерагчыся ад няшчасных выпадкаў у цягельнай вытворчасьці. 1 арк.
**Ванаг Н.**—Ленінская концэпцыя. (Пераклад з расійскае мовы) 1,5 арк.
**Варга Матыльёў.**—Проблема сусьветнага крызысу капіталізму. (Пераклад з расійскае мовы) 12 арк.
**Первянцы пяцігодкі.**—7 арк.
**Гораў і Гурэвіч.**—Цэхі культуры. 4,5 арк.



Выдавец—Кнігасэктар ДВБ. Адказны Рэдактар Я. Клейнэр

Друк. імя Сталіна. Зак. № 285 1.500 экз. Уп. Галоўлітбел № А 70